# У АДНОЙ ШКОЛЕ

Сонейка ўжо развітвалася з аколіцай, калі я ўваходзіў у Маліннікі. Прыгожая вёска, пранізаная шырокім шасэ, добрыя гаспадарчыя пабудовы, мала дамоў з саламянай страхой, чыстата і парадак на панадворках — гавораць аб тым, што ў Малінніках дбаюць пра свае гаспадаркі. Шкада толькі, што яны трымаюцца яшчэ «трохпалёўкі».

Грам. Монсюля я спаткаў на панадворку школы. Ён гутарыў са сваімі вучаніцамі. Хоць і канікулы, але вучні прыходзяць да школы, каб пагутарыць са сваім настаўнікам. Яны яго любяць і паважаюць. Калі я перавёў позірк на школьны агарод, мяне ахапіла здзіўленне. «Што гэта... пачатковая школа, ці сельскагаспадарчы тэхнікум?» — задаў я сабе пытанне, саромечыся звярнуцца з ім непасрэдна да загадчыка. Квадратныя палеткі - загончыкі, розныя расліны, а на некаторых палетках відаць пожню.

— Хто ў вас гаспадар гэтых вопытных палеткаў? — пытаю загадчыка.

— Я, — адказвае скромна.

І тут пачалася мая «экскурсія» па сцежках між палеткамі.

Грам. Монсюль расказвае, што апрача агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, ён таксама закончыў сельскагаспадарча - агратэхнічную школу. Вопытныя палеткі арганізаваў некалькі год таму назад, як толькі пачаў працаваць у Малінніках.

— Маім вучням неабходны сельскагаспадарчыя веды — гаворыць загадчык. — Я саджу і сею на палетках расліны з мэтай, каб паказаць моладзі практычна, які можна атрымаць ураджай, калі весці гаспадарку паводле асноў новай агратэхнікі. Апрача вядомых у аколіцы раслін, сею таксама і менш вядомыя, якія аднак, растуць на нашай глебе і даюць многа карысці.

Падыходзім да палетка, дзе радкамі стаяць дрэўцы некланскай тапалі.

— Вось, бачыце, — гаворыць загадчык, — гэтая тапаля расце надта хутка. Дрэўцам няма яшчэ паўтара года, а яны ўжо маюць 3,5 м у вышыню. Цераз 5 год іх можна выкарыстаць на страпіла, а яшчэ праз некалькі — гэта ўжо будаўнічы матэрыял.

Вырошчваць такую тапалю вельмі лёгка. Насеннем з'яўляюцца яе парасткі (галінкі). Не патрабуе яна ўраджайнай зямлі і спецыяльнага догляду. Пажаданым было б, каб сяляне зацікавіліся некланскай тапаляй. Можа эксперымент даў бы ў будучыні добрыя вынікі і ў некаторай ступені вырашыў праблему будаўнічых матэрыялаў.

На школьным агародзе ў Малінніках у мінулым годзе было больш 40-а розных раслін. У г. г. крыху менш. Грам. Монсюль захварэў і не было каму іх даглядаць. Палеткамі загадчыка цікавіцца не толькі моладзь, але і старэйшыя. Ён ахвотна раіць сялянам, дзе што садзіць і сеяць. За гэта па ўсёй аколіцы яго паважаюць і цэняць, як сапраўднага настаўніка. Як жа можна не цаніць такога чалавека, які жыве сялянскімі турботамі, на кожным кроку ім дапамагае.

У суседа каля школы быў зусім не выкарыстаны шырокі панадворак. Загадчык параіў яму, зрабіць там маленькі агарод, даў рознага насення. Цяпер прыемна паглядзець, як растуць там агуркі, таматы, салата і іншыя расліны. А жонка суседа цешыцца, што мае з чаго наварыць суп.

Калі ў вёсцы не было пункта аховы здароўя, да загадчыка звярталіся жыхары і па фельшарскія парады.

Калі мы затрымаліся перад уваходам у школу, грам. Монсюль сказаў, што так як аб этыцы вучняў, трэба таксама клапаціцца і аб эстэтыцы школы. Разнародныя кветкі, прыдаюць, і так прыгожай школе, яшчэ прыгажэйшы выгляд. На клумбах пасеяна некалькі гатункаў траў. Тут загадчык праводзіць вопыты, якія травы найлепш прыгодны для гэтай аколіцы, а вынікамі вопытаў дзеліцца з сялянамі.

Да заслуг загадчыка належыць таксама, арганізаваная ў мінулым годзе, школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Малінніках. Яна мае два аддзяленні: раслін і жывёлагадоўлі, а таксама агульнаадукацыйнае, на якім удзельнікі вывучаюць некаторыя прадметы з 8-га класа. Школа сельгаспадрыхтоўкі налічвае ў г. г. 35 вучняў, якімі з'яўляюцца маладыя людзі з 5-ці вёсак.

У адной са школьных залаў на другім павярху стаіць у кутку стол. На стале ляжыць мноства кніжак і брашур. Гэта сельскагаспадарчая літаратура. Апрача кніжак з чыста «ральнічай» тэматыкай, ёсць таксама і прыродазнаўчыя, якія таксама не менш цікавяць сялян.

— Я, у меру сваіх магчымасцей, стараюся даваць сялянскай моладзі тэарэтычную гаспадарчую асвету, а таксама практычныя навыкі — сказаў загадчык. — Мне ўжо 64 гады і ў хуткім часе не змагу прадаўжаць сваёй працы. Хацелася б, каб маладыя настаўнікі не забывалі, што аўтарытэт сярод людзей, побач з асабістым задавальненнем, здабываецца ў працы, — з усхваляваннем закончыў кіраўнік школы.

*

У заключэнні хочацца пажадаць грам. Юзэфу Монсюлю доўгіх год жыцця, і каб яго працай больш цікавіліся маладыя настаўнікі з навакольных вёсак.

М. КУРАШ



Мастацкі калектыў прадпрыемства сухой дыстыляцыі дрэва ў Гайнаўцы. фота — М. Тарасевіч

## З ВІЗІТАМ
## У РАГЕНІЦКІХ ГУРТКОЎЦАЎ

(Працяг са стар. 4)

шка прыгаршу толькі што вымалачанага жоўта - залацістага аўса і прапусціў яго цераз пальцы.

— Цэпам так не выб'еш, — прагаварыў ён з задавальненнем.

— Машыны ў вас добрыя — гавару — і шмат іх, але ў гуртку вас малавата. Што будзе з машынамі, калі ўсе свае работы паробіце?

— Даражэнькі, да нас жа сяляне з дзесятых вёсак прыходзяць рабіць заказы на машыны. Дзён за мала будзе. Толькі ў адной нашай вёсцы самой малацьбы хопіць нам на месяц. А колькі другіх работ? Нябось, кожны цяпер хоча карыстацца нашымі машынамі. І мы шкадаваць не будзем.

Няхай ведаюць людзі, што сельгасгуртоК гэта карысць для ўсёй вёскі. Але перш за ўсё машыны будуць працаваць у членаў гуртка і то па зніжаных цэнах. Несумненна, што заахвоціць гэта прымкнуць да нас і другіх.

— Ну, а як там у вас, беларусаў, разгортваюцца гурткі? — зацікавіўся старшыня.

— Ёсць, кажу, і ў нас добрыя сельгасгурткі, ёсць і добрыя спулдзельні прадукцыйныя. Пра Крывую або Дарожкі чулі? — спытаў я.

— Чытаў неаднойчы ў «Беластоцкай газеце», але не ведаў, што гэта беларусы. Калі ўсё праўда, што аб іх пішуць, дык малайцы, сапраўды малайцы! — упэўнена сказаў старшыня.

— Прыязджайце, самі пабачыце. Гэта ж не за гарамі.

— І сапраўды, — падтрымаў маю думку старшыня, — гэта было б нядрэнна. Трэба нам навязаць больш цесную сувязь. Жывем жа ў адной краіне, так сказаць у адной сям'і і амаль нічога аб сабе не ведаем.

— Ну, што ж, — сказаў на развітанне старшыня, — не забывайце нас. Прыязджайце і пасля, калі лепш разжывемся, калі больш будзе чым пахваліцца. Будзем прымаць вас, як родных.

В. БАРШЧЭЎСКІ

срэбнымі выкрутасамі верх яго форменнай шапачкі на пядзі паўтары не даставаў да лісцяў. Гэта я заўважыў здалёк. Падышоўшы да таго самага месца я выцягнуў шыю і выразна адчуў, як галінкі джарганулі мяне па патыліцы.

— Во! — сказаў я ўголас.

Вядома, чуб — гэта дзіцячая фантазія. Я да яго хутка прызвычаіўся, ён паслужыў толькі маленькай ступенькай да самастойнасці і незалежнасці. А такіх ступенек на шляху да сталасці ў мяне было шмат.

Мяне людзі паважалі. Паважалі, мабыць, за маўклівасць. Бо да маўклівых заўсёды прабуджаецца некаторая цікавасць. Паважалі яшчэ і за рост, за што нават было і няёмка. Іхнія дабразычлівыя адносіны мяне падбадзёрвалі.

І ўсяму таму, што расказаў, я ўдзяляў мала ўвагі. Іншыя справы мною тады валодалі.

Не, не вучоба была маім захапленнем! Якраз асноўнай мэце, дзеля чаго я прыехаў у Вільню, мала прысвячаў часу. Яшчэ настаўнікі «паўшэхнай школы» былі мае ворагі, а ўсё тое, чаму яны вучылі, было мне варожае. Такое перакананне я перанёс з хаты ў школу і год ад году яно ў мяне паглыблялася. Працэс майго навучання адбываўся недзе паміж урокамі, на вуліцы, дома. Паехаў у Вільню, бо туды адпраўляліся многія, каб не заставацца на вёсцы.

На курсах я рыхтаваў урокі па старой звычцы, без задавальнення і энтузіязму, ды толькі тады, калі ведаў, што мяне вызавуць. Уся мая душа была ахоплена падзеямі, якія разгортваліся на свеце. А тады было чым захапляцца.

На віленскіх завулках з кіямі стаялі эндэцкія пікеты. Яны не пускалі кліентаў у яўрэйскія крамы. Маладыя яўрэі амаль на кожным скрыжаванні вуліц прадавалі карыкатуры на Гітлера. У цырку я бачыў, як барцы выйшлі на манеж, выкінулі да публікі правыя рукі і прывіталіся: «Гайль Гітлер!» Усім было вядома, што гэта гітлераўскія агенты, але яны свабодна ездзілі па Польшчы і выконвалі сваю таямнічую справу. Газеты стракацелі здымкамі новых замежных бамбардзіроўшчыкаў і малюнкамі бомбасховішчаў у Лондане і Парыжы. Усе людзі былі хворыя падзеямі. Заразіўся імі і я.

Хвароба гэтая падымала мяне раніцой з цвёрдага матраца і прымушала бегчы на Замковую вуліцу. Там на вітрыне рэдакцыя вывешвала свежую газету. Хоць гэта было «Слова» віленскага фашыста Цата - Мацкевіча, — усё ж такі — газета, і бясплатная. Праз галовы такіх, як сам, я прагна ўпіваўся ў свежыя старонкі. І калі вычытваў, што албанцы зноў разбілі італьянскую дывізію, або восьмая армія Мао Цзэ-дуна пагнала японцаў, я вяртаўся дадому шчаслівым чалавекам.

Мяне на вёсцы не паспелі прыняць у падпольны камсамол. Я лічыўся актывам яго, сваім чалавекам. Набліжалася бура. Яе рыхтавалі вярхі. Я цьмяна адчуваў, што ў падзеях рашучую ролю будуць адыгрываць нязначныя, як я, чалавечкі. Душа прагнула, каб, нарэшце, усё, што мае быць, пачалося, каб захлябнуцца ў віхры падзей! І на фоне гэтага мой рост і прыгажосць фанабэрлівай генеральскай дачкі здаваліся дробяззю.

А ўсё ж такі, нягледзячы на падзеі і на тое, што мне ў вольны час не шкодзіла б заглянуць у кніжку, я стаў удзяляць шмат часу суседцы. Я не намерваўся закахацца ў яе. Я ж яе глыбока ненавідзеў, як і ўсё асяроддзе, з якога яна паходзіла. Я проста пачаў марыць, як адпомшчу ёй за тое, што яна генеральская дачка, прымушу пакарыцца так, каб яна стала маёй нявольніцай, добраназбыткуюся за ўсе крыўды, такіх, як я, і кіну. Я пацяшаўся і ўжо смакаваў прыемнасць ад помсты. З вялікім задавальненнем прыдумваў сабе розныя шляхі, якімі я даб'юся сваёй мэты. Паступова гэта ў мяне перайшло ў хваробу. Суседскі падворак я не выпускаў з вачэй.

А ён быў агароджан металёвай сеткай, праз якую віднеўся арыгінальны карабок дома з плаcкім дахам, з вялікімі, у адну шыбу, вокнамі. Вакол дома расла піхта, модрэў, амерыканскі клён, а на клумбах — кветкі, пальмы. Сцены былі ўвіты дзікім вінаградам. Сярод галінак дрэў з вечара да раніцы гарэла лямпачка. Шкло, бетон, чысціня і парадак, электрычнае святло, паўднёвыя расліны, усё вялікапанскае, недаступнае, незвычайнае і таямнічае.

Аднаго вечара ў суботу я сядзеў на ганку і не спускаў вачэй з генеральскага падворка. Нячутна адчыніліся дзверы і выйшлі тры чалавечыя постаці. Я чуццём адгадаў, што сярод іх была і тая, каго вартаваў. Пабег за брамку. Нагнаўшы тры паненкі, я пайшоў следам.

Перад цэнтральнай вуліцай паненкі спыніліся. Адна з іх звярнулася да маёй суседкі:

— Крысю, куды пойдзем, на Вільню?

— Ай, не хачу! Там пан Браніслаў будзе. Во, ідэя! Давайце паходзім па кандытарскіх магазінах!

— У мяне няма грошай...

— Няма і ў мяне. Паходзім проста так, для цікавасці. Паўзіраемся, якія ёсць новыя цукеркі. Ну, хадзем! — прасіла яна настойліва.

(Працяг будзе)




## Вясковыя жарты

Муж з жонкай паехалі па сена. Ім здарылася няшчасце. Кепска накладзеная фура павалілася і прыдушыла мужа. Муж крычыць:

— Ратуй мяне!

А жонка толькі пытае:

— Ты дзе долары падзеў?

*

Лясьнік злавіў мужыка, які ўкраў тоўстае дрэва.

Ляснік:

— Ну, што ж, братка, будзеш сядзець.

Мужык:

— Ой, паночку ляснічы, якім правам вы мяне пасадзіце, я ж на гэтае месца ўжо трох пасадзіў.

*

Двух п'яных пабіліся. Адзін быў слабейшы і яму больш дасталася.

На другі дзень ён ідзе шукаць таго, хто яго пабіў. Вось яны і сустрэліся.

— Ці то не ты часам будзеш учарайшы? — пытае пакрыўджаны.

А той яму.

— Які я ўчарайшы, я ўжо 30 год пражыў.

Прыслала
Вольга КАРДАШ
в. Ляшукі
п-та Старое Ляўкова
Гайнаўскі павет

## ГУТАРКА

На вуліцы сустрэліся два гаспадары — Мікола і Васіль.

— Ну і ўраджай сёлета! — кажа Мікола.

— Радыё казала, што будзе дождж — адказвае Васіль.

— Як там у цябе збожжа, вялікае? — пытае Мікола.

— Узаўтра паеду ў Бельск — гаворыць Васіль!

— Дурны ты, Васіль!

— Але лепшы ад цябе — адказвае ён Міколе.

Прыслаў:
Андрэй СІДАРУК
з Сакаў

## ПАХВАЛІЎСЯ

— Гэта было ў час руска - турэцкай вайны, — расказваў дзед Рыгор. — Іду я, — аж бачу ляжыць турак. Так я яго і ўцяў шашкай па нагах.

— А чаму не па галаве, — пытаецца Сцёпа.

— Ну, бо галавы ўжо не было.

Прыслаў
КОЛЯ ДАНІЛЮК
в. Крывая
Бельскі пав.

## ЧАСТУШКІ

### Ля Ласінкі на гасцінцы

Ля Ласінкі на гасцінцы,
Мост паломаны вісіць.
Пакуль ты яго праедзеш,
Душа ў пяткі заляціць.

То не мост, а проста пастка
На людзей і на машын,
Там каня скалечыць можна —
Наламаць у возе шын.

Не дзіўную, што ў Ласінку
Не йдуць хлопцы да дзяўчат;
— Там на мосце ногі скруціш, —
Ў адзін голас ўсе крычаць.

— Хай у дзень ты і праедзеш
Гэты мосцік, абмінеш,
То ў начы абавязкова
Ў дзіру нейкую ўпадзеш

У дзень паехаць і прыехаць —
Гэта «рантка» ні к чаму.
Не цікавая дзяўчыне
Не па густу і яму.

Каб каханне не псаваць,
Трэба мост рамантаваць,
А выгода будзе ўсім
І старым і маладым.

ЯНКА БЕРАЗАВЕЦ









Мал. У. Узбяковаї
«Аганёк»

## У СУДЗЕ

Суддзя да абвінавачанага:
— За хуліганства вы атрымалі месяц турмы. У якім вы месяцы хочаце адбыць кару?
Абвінавачаны:
— У лютым.
— А чым гэта матывуеце? — пытае суддзя.
— Бо люты мае толькі 28 дзён.

б. я.

## ВЭЦІ

Нарабілі на свеце шуму з-за снежнага чалавека Вэці.

Усялякія навуковыя экспедыцыі па гарах лазяць, дзе нават горная каза не заглядала. Навуковыя супрацоўнікі ганяюцца за Вэці, як за зайцам. Бывае, знойдуць след мядзведзя, падрабязна пад мікраскопам разгледзяць яго, а потым пішуць карэспандэнцыі аб тым, што натрапілі на сляды Вэці.

Расказваюць, што 30 год таму назад у Тыбецкіх горах быў злоўлены жывы Вэці, аброслы ад галавы да ног, разам з пупам. (Нічога ў гэтым дзіўнага, у гарах то цырульняў няма.)

Вэці не бываў у піўных, ні на кірмашах, ані ў Гээсах на скупачных пунктах не паказваўся. Мабыць таму і не ўмеў гаварыць.

У нашым жыцці другія ўмовы.

Усё ж-такі вернемся да гісторыі Тыбецкага Вэці.

Гэты снежны чалавек, спаткаўшыся з цывілізаваным, ужо на другі дзень памёр са здзіўлення.

Хоць Тыбет ад нас далёка, але Вэці можна знайсці і ў нас.

У нашай вёсцы, напрыклад, жыве Вэці. Валасамі аброс, як наш дзед Панамар, ад людзей уцякае, севаабаротам і культывізацыяй не цікавіцца. Адным словам сапраўдны Вэці.

Наш Вэці сочыць толькі за сваімі ўласнымі справамі. Грамадскімі справамі не цікавіцца, на вясковых сходах не бывае і суседзям ніколі не дапамагае.

Наш Вэці разумова развіты дакладна так, як сапраўдны Вэці. Калі едзе шасою, не разумее, што карыстаецца грамадскай дарогай, а як толькі зверне на вясковую дарогу, і падырдзе па выбоях, дык уладу вылае за непарадкі дарожныя. Забывае, што сам ад грамадскіх абавязкаў выкручваецца.

Паглядзіце, людзі, вакол сябе. У вас таксама такія Вэці знойдуцца. Іх можна і без мікраскопа ўбачыць.

Дзядзька Лявон

ЭДУАРД ВАЛАСЕВІЧ

## МЕД І РЭДЗЬКА

— Калі мяне ў мядку прыгатаваць —
Ласунку лепшага і ў сне не прыгадаць!
За цукар саладзей, смачней за грушы!
Старога і малога ад мяне не адарвеш за вушы!
Вось гэта ежа — проста асалода! —
Захліпвалася Рэдзька горда.
— Вядома, — адгукнуўся жоўты Агурок, —
І я з ім меў бы іншы смак,
Ды і без нас з табой нішто мядок!

БЫВАЕ ТАК

Сябе мы часам выстаўляем,
А добрага ў другіх не прыкмячаем.

## У ЧАСЕ НАБАЖЭНСТВА

У прыхадскім касцёле адбывалася ўрачыстае набажэнства за дождж, бо пасуха пагражала ўраджаю. Наступае момант пропаведзі. Вышаў ксёндз, паглядзеў з гневам на прысутных і выгукнуў абураны:

— Як вам не сорамна, нявернныя. Вы прышлі маліцца да Бога за дождж, а ніхто з вас не ўзяў з сабой парасона.

б.

Румынскі гумар

### У РЭСТАРАНЕ

— Афіцыянт, падайце калі ласка—арфаграфічныя памылкі.
— Такога не маем.
— Тады, чаму яны ў вас у меню?

Польскі гумар

### ПАМІЖ ПАЭТАМІ

— Як ты лічыш — я павінен у свае вершы даваць больш агню?
— Не, — больш вершаў у агонь.

### ЦЫРК

— У апошняй нашай праграме мы маем вялікі атракцыён — тыгр і авечка згодна жывуць у адной клетцы.
— І ніколі не сварацца?
— Часам.
— І што тады?
— Тады мы купляем новую авечку.

Англійскі гумар

*

Бацька сеў каля каміна. Дзеці расказваюць яму па чарзе, што добрага яны сёння зрабілі.
— Я памыла пасуду — сказала старэйшая.
— А я паставіла ўсё на паліцу — сказала другая.
Самая маленькая прапішчэла:
— А я толькі падбірала асколкі.

*

— Я не вельмі высокага погляду аб сланах — сказала адна муха другой.
— Чаму?
— Ну, хоць бы таму, што яны не ўмеюць хадзіць па столі.

Прыслаў
АНТОН РУДАК
Торунь

## ПАДУМАЙ

(Апрацавала — Л. Красоўская)



Якой дарогай пабяжыць Бобік за сарнай?